меюць, пагніюць, спарахнеюць, зьнікнуць, як дым пад павевам сьвежага ветру...

Гуторскі давольны тым, што едзе—едзе ў новыя месцы, да новых людзей, да новых уражаньняў... Яшчэ ў тую бяссонную, доўгую ноч пасьля тэй канчатковай гутаркі з Нінай, у яго склалася пастанова паехаць...

Усю ноч ён тады прадумаў. Раскалупваў сваё нутро, рабіў пільны абгляд самога сябе. І тады ён зразумеў, што захварэў, што трэба лячыцца, пакуль ня позна. Ён ясна вызначыў сваю хваробу, знайшоў яе карані, яе прычыну.

Ён адарваўся ад народу, адышоўся ад яго. Патраціў зьвязак з яго жыватворчай глебай. Яшчэ момант—і парвуцца астатнія карані, якія яшчэ засталіся, якія яшчэ, хаця слаба, але прывязваюць да працоўнае глебы, падаюць яшчэ жыцьцёвыя сілы. Парвуцца яны—і тады...

Гуторскі аж жахнуўся, як падумаў быў пра гэта.

Тады—усё. Тады—сьмерць... Тады—гэткая доля, як Ніны Купрыянавай—доля пажоўклых, адарваных ад дрэва лістоў...

І ён схапянуўся. Рашыў лячыцца, пакуль ня позна, ад сваёй хваробы. Рашыў вярнуцца, зьліцца з працоўным народам, набрацца сіл жыватворчых, замацаваць сваё права на новае жыцьцё.

І вось ён едзе—едзе ў Чырвоную армію, у яе гушчыню, поўную нявычарпанага запасу жыцьцёвай энэргіі. Там ён набярэцца сіл, узновіць парваную сувязь, зноў пусьціць карані. Там ён зноў стане здаровы!

Чыгунка ляціць, нясе ўсё далей і далей... Зьлёгка падрыгвае цёмны вагон...

— Дзын! Дзын! Дзын!—жалобна зьвягае ў цемры пабітае шкло...

Гуторскага агортвае цягучая дрэма...

---

# АДКУПІЎСЯ

I.

Угары жудасна, страшна гудзела. Гэта вецер шалеў, абязуліўшы. А Пятрусю здавалася нямаведама што. Быццам цёмнаму лесу толькі і цікава, што сачыць за ім, злачынцам!

І здавалася Пятрусю, што дрэвы скупіліся сваімі верхавінамі ў адну злосную навалу і пагрозна гудуць яму зьверху, страшаць, перасьцерагаюць. Здаецца, нахіляюцца на яго чорнай, вялізнай грамадай... усё ніжэй і ніжэй. Во-во—яшчэ цюкне раз вострай сякерай—і наваляцца на яго цяжкія, злосныя, заціснуць, задушаць...

Але Пятрусь з апошняй адчайнай патугай сьціскаў моцна, як мага, сякеру і біў, нічога ня памятаючы, нічога ня бачачы, біў, як трапіла, сьпяшаўся, каб барджэй дабрацца да сэрца—каб павалілася дрэва.

Тах! Тах! Тах!..

Сякера не трапляла туды, куды трэба; злосьць брала Пятруся. Біў яшчэ часьцей, яшчэ мацней, яшчэ зласьней. Потам абліўся ўвесь. А сэрца, як тая сякера, расьсякала грудзі...

Тук! Тук! Тук!..

Во закрактала ўжо дрэва. Сьперш ціха, паволі, як часам бусел на старой, карузлай бярозе, а потым мацней, гучней, з нейкай патугай, з больлю...

Крррах!..

І ціха... Пятрусь нават прысеў, спалоханы раптоўнай цішой. Мо' так здалося яму, а мо' й сапраўды ўсё пацішэла ўраз? Толькі ў распаленай галаве кляўцы б'юць неяк напружна, станоўка... Пятрусь ня рушыўся з месца. Прыслухоўваўся пільна...

Шолахі пацяклі з усіх бакоў. Быццам хто падцікаўся, насоўваўся з цемры, з ляснога гушчару... Во-во насьпее... У Пятруся каленкі закалаціліся. А як недзе хруснула галіна—ірвануўся з месца, што спуджаны конь, бегчы памкнуўся.

Не... Нічога няма. Пэўна зьвярок які прашмыгнуў, а мо' выпрасталася прыціснутая дрэвам галінка... Усё спакойна. Нават

макаўкі ўгары гутараць неяк лагодна, пасяброўску... Ня злуюцца ўжо. Ды за вошта злавацца? Ну, ці пайшоў-бы ён на гэта, каб не такая патрэба? Чатыры, толькі-ж чатыры бервяны не стае... А бяз хаты ня можна. У лазьні жыве... Сям'я вялізная, дзеткі малыя...

Пятрусь уздыхнуў, заспакоіўся трохі і стаў памалу церабіць сукі з паваленага дрэва.

Цюк... Цюк... Цюк...

Неяк квола, рахмана гутарыла сякера, неяк спакойна, лагодна шумацеў па верхавінах вецер...

Пятрусь зусім уціхамірыўся і разам з гэтым пачуў сябе такім маленькім, недалужным. Шкода стала самога сябе, аж сэрца сьціснулася неяк балюча. Ну, што ён робіць такога дрэннага? За вошта туляецца, як зьвер які, баіцца кожнага шолаху, кожнага зыку? Што ён, злодзей які? Ён проста бедны, гаротны мужык... Спраўны, працавіты. Ці-ж ён ня купіў-бы гэтых чатыры бярнушкі, каб было за што? Але што-ж зрабіць? Солі няма за што купіць, а ня то што... А ўсё цераз вайну гэту згубную. Зруйнавалі, хату спалілі... Ужо два гады ў лазьні жыве. Ну, якое-ж тут жыцьцё! Іншыя паадбудаваліся як-колечы, за бальшавікамі навазілі бярвеньняў—тыя дазвалялі, бачылі-ж людзкую гароту. А цяпер?.. Во чатыры бярны ня справіўся прывезьці тады, дык цяпер і ня зробіш нічога. Хадзіў і да пана... Ат, толькі паназьдзекваўся з цёмнага мужыка. Прыгразіў, што й тыя адбярэ... Эх, жыцьцё, жыцьцё...

Пятрусь выпрастаўся, пастаяў трохі, уздыхнуў глыбока-глыбока і пасунуўся ў цемры да другога, яшчэ раней аблюбаванага дрэва. Спакваля рашчысьціў вакол месца, стаў ямчэй, упёрся нагамі ў імшарнік, сьціснуў моцна-моцна сякеру ў дужых, карузлых руках...

Зноў, як злоўленая птушка, закалацілася сэрца, зноў пагрозна загулі верхавіны... Э, няхай будзе што будзе!.. Тах!.. Тах!.. Тах!..

Зноў паляцелі ў цёмны гушчар пасьпешныя, прыкра-гучныя ўдары...

. . . . . . . . . . . . . .

Кабыла Пятрусёва стаяла воддаль у хмызьніку схаваная...

— І-гы-гы-гы!—заіржала радасна, як падышоў да яе гаспадар.

— Ну, кабылка, пойдзем ужо!..

Пяшчотна пагладзіў свайго вернага сябрука, адвязаў і павёў на дарогу. Дарога бялелася няяснай плямай, сьціснутая з абодвых бакоў калматымі сьценамі лесу. Пятрусь распусьціў

цялежкі, намацаў з боку дарогі лычы прыцягнутых бярвеньняў і адно за адным усклаў іх на калёсы. Перавязаў, паправіў шляю на кабыле і пасягаў па дарозе.

Даўно нямазаныя каткі неяк жаласна, прарэзьліва рыпелі, і гэтае рыпеньне скрабала Пятруся за сэрца. Ён міжвольна стрымліваў ход, затойваў дух і спыняў за морду кабылу, якая ўсё парывалася ўперад. Але каткі ўсё роўна рыпелі. Сьціхнуць, сьціхнуць, а потым раптам як заенчаць цягуча, staноўка, быццам і век ня спыніцца гэты енк, усё будзе, што тупой пілой, рэзаць паветра, усё будзе працінаць наскрозь нутро... Але зноў сьціхнуць... А потым зноў праз хвілінку...

Во й зваротка ўжо. Як тут паехаць: ці проста—па шляху, ці кругом—па лесе, балоту, па нетрах? Сюды бліжэй і дарога лепшая, але затое кругом куды сьмялей... Па шляху ці мала на каго можна натрапіць!.. Ат, што будзе, то будзе!.. Зваротка асталася адзаду.

Праз паўгадзіны пачаў радзець лес. Хутка ўжо й поле, а там з паўвярсты яшчэ...

— Рып... рып!—пяюць каткі. Кабыла шчыра бярэ, засаплася аж небарака.

Во ўжо й поле зараз. Зашарэў прасьвет у сьцяне лесу, а на ім—што гэта?—Быццам постаці нейкія... Ды не, гэта проста здаецца. Мо' пні якія? Але нейкая прыкрая млявасьць пацякла па целе. Схапіў за морду кабылу, спыніў. Упяўся вачмі, напружыўся, нярухомы... Постаці заварушыліся, пасунуліся насустрэчу...

— Людзі!.. Пагіб!..

— А мо' свае?—мігнула надзея.

Сунуцца бліжэй і бліжэй...

— Хто тут?—сярдзіты пачуўся воклік.

Пятрусь абамлеў. Што рабіць? Хіба ўцячы, пакуль ня позна? Кінуць усё: бярвеньня, кабылу... Не! кабылу няможна...

— Хто тут?

— Я,—гукнуў ледзь чутна, дрыжачым голасам.

— А, злодзей, папаўся! Дык красьці, значыцца, га? Ноччу ў лес у чужы?

— Паночкі, зьмілуйцеся!.. Чатыры бярнушкі адсек невялічкія... Хаты ня маю... у лазьні жыву...

— Хаты ня маеш, дык красьці? Ах ты, сабака паршывы!.. Параспусьціліся, сволачы!.. Бальшавікоў помніце?.. Мы вам пакажам бальшавікоў!..

Дзьве цёмныя фігуры накінуліся, як галодныя ваўкі, на сваю ахвяру. Пятрусь махінальна закрыўся рукой... Бізун ёмка сьвіснуў у паветры і, як піяўка, упіўся ў чалавечае цела...

— Ня біце!.. Бярэце, судзеце, рабеце, што хочаце, толькі ня біце!.. Ай-яй-яй-яй!.. Браточкі, зьмілуйцеся!.. Ой-ёй-ёй-ёй!.. Ратуйце!..

І доўга слухаў цёмны, пахмурны лес адчайныя, жаласныя стогны чалавека...

## II.

— Ха-ха-ха-ха!.. Во, гэта так!.. Ды, як я бачу, вы так разумееце натуру нашага хлопа, як я кітайскую мову... Ха-ха-ха!..

Як сьмяяўся стары пан Бажэлка, яго тлустае, адвіслае пуза траслося, як квашаніна. У мяккім старадаўным крэсьле раскапусьцілася панскае цела, як вялізны кавалак здобнага цеста; глыбока ўехала ў слухмяныя, пакрытыя чырвоным аксамітам, спрунжыны...

— Пачуцьцё, ха-ха-ха!.. Пачуцьцё ў хлопа... У гэтага быдла дурнога!.. Вы, пане Ржэчыцкі, разважаеце, што блазен. Ну, вы-ж зірнеце проста на нашага мужыка, на яго жыцьцё... Што яму трэба? Пад'есьці... Толькі пад'есьці—і больш нічога... Чаго?—гэта ня важна. Абы бруха напхаць... Пачуцьцё, імкненьне ў яго адно: гэта—есьці. Ну, піць яшчэ, з бабай паляжаць... Да ўсяго іншага ён ня здольны. Гэта, што вы тут размалёўваеце аб ягопачуцьцях, аб душы яго, аб парываньнях,—усё гэта ні больш ні менш, як дзіцячае трызьненьне...

— Я ня згодзен з вамі, паночку,—неяк мякка, лісьліва, але досыць настойна гаварыў пан Ржэчыцкі.—Вы забываецеся на тыя багатыя духоўныя скарбы, якія нават выяўляюцца часам у вуснай творчасьці народнай, у яго сьпевах, казках і інш. Вядома, што псыхолёгія селяніна значна розьніцца ад псыхолёгіі чалавека вышэйшага кола, але я ніколі не згаджуся з тым, што хлоп—гэта нешта сярэдняе паміж чалавекам і жывёлай, нават нешта бліжэйшае да апошняй, як разумееце вы, паночку... Ён—чалавек і мае ўсё, што наогул уласьціва духоўнай прыродзе чалавека. Ён жыве духоўна, у яго ёсьць свой духоўны сьвет. Мы ня бачым гэтага, не разумеем толькі затым, што ён маўчыць, што ён ня любіць, як мы, інтэлігэнты, выяўляць наповерх свае пачуцьці, перажываньні... Але яны ёсьць у яго, нявідныя, захаваныя глыбока ўнутры...

— Хэ-хе-хе-хе... Казкі гэта... Лятуценьні юнацкія... Калісь і я гаварыў так, пане Ржэчыцкі, але потым прышлося толькі пасьмяяцца над самым сабой... Я знаю хлопа, знаю, як свае пяць пальцаў, наскрозь бачу ўсю яго істоту... І мяне сьмех бярэ ад усіх гэтых высокіх слоў. Я знаю адно: хлоп павінен працаваць, на гэта ён радзіўся, гэта яго назначэньне... І знаю

яшчэ,—пан пачаў гаварыць трохі злосна,—што гэтыя самыя гутаркі вашы, даходзячы часам да яго вушэй, псуюць яго. Ён пачынае нямаведама, што думаць аб сабе, распускаецца... Што, мала клопату нарабілі нам гэтыя бальшавікі? Мала пад іх уплывам хлопы нам напаскудзілі?.. І цяпер яшчэ паскудзяць... Усё спадзяюцца, што прыдуць тыя...

— Паночку, як сабе ня хочаце, а мы самі трохі вінаваты ў гэтым. Цяжкае жыцьцё прымушае...

— Жыцьцё? Ды няхай-бы я з голаду падыхаў, ня меў кавалка хлеба, усё роўна не адважыўся-б красьці... А яны?.. Вы ведаеце, што мне прышлося трайную варту паставіць у Заблонскім бары. Крадуць... Едуць, як у свой лес усё роўна... Ну, скажэце вы, хіба можна назваць чалавекам таго, хто ня прызнае ніякіх чалавечых законаў, для якога памыкацца на сьвятое права ўласнасьці—звычайная рэч, га?.. Ну, як-бы вы, пане, паглядзелі на мяне, каб я прышоў у ваш дом і звалок у вас што-якое, а?..

— Каб вы гэта зрабілі ў звычайным становішчы, я, вядома, асудзіў-бы гэты ўчынак; але зусім іншая рэч, калі-б вы зрабілі гэта, паміраючы з голаду... Ня знаю... Наўрад-бы я кінуў тады ў вас камень асуджэньня...

— Іначай кажучы, вы ня лічыце вінаватымі тых мужыкоў, што крадуць дрэвы з майго бору?

Ржэчыцкі трохі памаўчаў...

— Выбачайце, паночку, але ў нашым кампанстве, я мысьлю, не павінна быць сакрэтаў... Так, я ня лічу іх вінаватымі...

Пан Бажэлка вылупіў вочы. Ржэчыцкі пасьпяшыў дадаць:

— Але, вядома, каб вы запыталі мяне пра гэта дзе на людзях,—я адказаў-бы іначай.

Пан Бажэлка нарыхтаваўся сказаць нешта, але адчыніліся дзьверы і ў пакой увайшоў панскі аканом.

— Што трэба?—абярнуўся да яго пан.

— Паночку, сёньня ў лесе яшчэ аднаго злавілі.

— Злавілі? Дзе ён?..

— Тутака, сюды прывялі.

— Вядзеце сюды!

Аканом пайшоў.

— Во! Чуеце? Ну, што-ж, павашаму гэта так і трэба, гэта нішто сабе?.. З голаду, з цяжкага жыцьця, а значыцца, зусім добрая справа... Не, паночку, мала яшчэ пражылі вы, калі хочаце ведаць!.. Ня вольнасьць патрэбна гэтаму быдлу, а пуга... ёмкая пуга... во што!.. Сьціснуць іх так, каб аж пішчэлі,—тады будзе парадак!..

Пан разьюшыўся да таго, што твар яго, тлусты, шырокі, пачырванеў, як бурак. Ржэчыцкі хацеў нешта папярэчыць, але ў гэты час увайшоў аканом, выпхнуўшы перад сабой калматага, абшарпанага мужыка...

Пятрусь (гэта быў ён) меў такі выгляд, быццам яго перапіхнулі праз малатарку. Пашкуматаны, растрапаны ўвесь чыста, валасы, барада ўскалмачаны, на твары гузы з сінякамі... Стаяў і неяк тупа, бязглузда глядзеў перад сабой. Аканом падштурхваў яго, шэпчучы нешта на вуха, але ён ня кратаўся з месца.

— Ну-ну!—загаварыў пан грубым пагардлівым тонам.—Забыўся на звычай дзядоўскі, а?.. Бальшавікі адучылі?.. Ну!..

І ён выцягнуў уперад сваю пухлую, брыдкую руку.

Пятрусь сьперш паглядзеў, не разумеючы, сваімі шырокарасплюшчанымі няпрытомнымі вачмі, потым ураз ажывіўся, падбег да пана, пацалаваў яму ў руку і рынуўся на калені...

— Паночку, даражэнькі! Даруйце! Ня буду больш ніколі... яй-богачку, ня буду... Паночку, гора мяне прымусіла. У лазьні жыву другі год...

З распаленых вачэй адна за аднэй закапалі буйныя сьлёзы. Твар сударгава скорчыўся, сабраўся неяк, яшчэ больш закудлаціўся. Мужык заплакаў, што дзяцёнак...

А пан глядзеў на яго з свайго мяккага крэсла, і на яго вуснах дрыгацела дзікая, злорадная ўсьмешка.

— Во,—зьвярнуўся ён да Ржэчыцкага:—падзівуйцеся!.. Во вам узор... Што, сапраўдны чалавек дапусьціў-бы сябе да гэтага? Зірнеце, дзе тут ёсьць чалавек? Пхе!.. Я бачу тут толькі брыдкую, дурную жывёлу, якой хвост прышчамілі!..

— Значыцца, красьці?—зьвярнуўся ён да Пятруся.—А? Красьці, сукін сын? У пана можна, а? Ня грэх?..

— Даруйце, паночку!—галасіў зьбянтэжаны мужык.—Ня губіце!.. Век бога буду маліць... Даруйце, паночку! Чатыры бярнушкі невялічкія...

— Ха-ха-ха!.. Чуеце, а? Які погляд на людзкія законы! Чатыры—гэта можна, ха-ха-ха!.. Дык, значыцца, чатыры толькі?.. Толькі чатыры, ха-ха-ха!..

— Даруйце, паночку!..

— Ды ты чаго заходзішся?—зьмяніў пан голас.—Я-ж з табой нічога не зраблю, не крану нават...

Пятрусь, ня ўцяміўшы, з недаверлівай надзеяй зірнуў на пана.

— Ха-ха-ха! Толькі ў суд падам... Толькі ў суд... Ну, штраф заплаціш невялічкі, мо' ў вастрозе троху пасядзіш... Гэта-ж глупства... Чатыры бярнушкі толькі, ха-ха-ха!..

— Зьмілуйцеся, паночку!..

— Ха-ха-ха!.. Во, глядзіце, пан Ржэчыцкі! Гэта чалавек па-вашаму? Варт ён гэтага слова? Што з быдлам, з ім можна зрабіць цяпер усё, што захочаш...

І, асьветлены раптоўнай дзікай зацеяй, пан зноў абярнуўся да мужыка:

— Во што, хлоп! Я табе ўсё гэта дарую, калі пацалуеш мне ў ногі...

І ён, адваліўшыся ў крэсьле, высунуў уперад брудныя боты, у якіх ён за гадзіну перад тым хадзіў па стадолах, аглядаючы сваіх стаеньнікаў.

Пятрусь недалужна азірнуўся навокал, быццам шукаючы сабе абароны. У дзьверы заглядалі цікавыя, усьміхаючыяся твары панскіх прыслужнікаў...

Пятрусь асалапеў. Колькі часу пераводзіў свой погляд з панскіх ботаў на Ржэчыцкага і назад, быццам бяз слоў просячы ратунку ў гэтага староньняга чалавека. З яго ўзрушанага твару глядзела пакута... Потым раптам адважыўся, нахіліўся... І адну за аднэй пацалаваў панскія ногі...

— Ха-ха-ха-ха!—рагатаў здаволены пан, гоўтаючыся ў крэсьле.—Ну, цяпер можаш ісьці, куды хочаш... Адкупіўся... —Ха-ха-ха!..

## III.

— Адкупіўся, ха-ха-ха!—дружным рогатам апанавалі Пятруся панскія прыслужнікі, як вышаў ён ад пана.

— Ха-ха-ха!.. Танна, зусім танна адкупіўся... Ха-ха-ха!..

Пятрусь стаяў сярод іх у нейкай няпрытомнасьці і ня знаў, што рабіць... Потым, нічога ня кажучы, ціхім крокам пайшоў у дзьверы.

— Адкупіўся... Адкупіўся!—няслося яму ўсьлед.

— Адкупіўся!—зьвінела ў яго ўвушшу.

На панскім двары стаяла яго галодная, перахлябіўшаяся кабылка... Радасна зайржала, як убачыла гаспадара.

— Адкупіўся, га-га-га-га!—здалося Пятрусю ў іржаньні кабылы.

Махінальна адвязаў кабылу, махінальна падвёў яе к варотам, адчыніў іх...

— Адкупіўся!—насьмешліва зарыпелі яму цяжкія вароты.

Сеў на калёсы і паехаў, не разумеючы—куды, за чым...

Вакол сьмяяўся, гарэзваў прыгожы, сьветлы дзянёк. Прырода дыхала чароўнай вольнасьцю, бязрупатнасьцю, быццам няма ёй аніякага дзела да таго, што робіцца сярод гэтых нэр-

вовых, абураных жыцьцёвай ліхаманкай людзей, быццам яе ні крушыначкі ня кратае гэта няўпынная, заўсёдашняя, лютая барацьба за кавалак хлеба, за лепшую долю ў жыцьці...

Птушкі цьвіркалі высока ўгары нейкую дзіўную, незямную песьню, якая гаварыла аб нечым далёкім і сьветлым, як тое блакітнае неба... Гэткай самай песьняй адгукваліся зьнізу, з шаўковай травы, галузы-скачкі...

А сонца... сонца шчодра, не шкадуючы, ліло на зямлю свае праменьні, купала ў іх усё чыста, быццам хацела здаволіць усіх і ўсё... Наце, піце, купайцеся, глытайце пражэрлівымі глоткамі!.. Усім стане... Бярэце, колькі-хоця, толькі будзьце здаволены!.. І ўсё прымала з радаваньнем яго шчодрыя падарункі, усё, як магло, дзякавала ветламу сонейку... Усё, толькі ня людзі!..

Пятрусь сядзеў на возе, пахіліўшы кудлатую галаву. Думаў, напружваў свой розум, каб злавіць якую-колечы нітку, па якой можна-б было дабрацца да галоўнага, уцяміць усё... Але не ўдавалася. Толькі назольліва біла ў вушы насьмешлівае, пагардлівае:

— Адкупіўся, адкупіўся!..

Гэта слова, здавалася яму, ляцела з усіх бакоў, ляцела жоўтымі, агнявымі маланкамі і балюча ўпівалася ў самае сэрца.

Птушкі сухім жорсткім звонам кідалі яго з вышыні; з бакоў, з густой травы, прарэзьлівым верашчаньнем сыпалі яго неўгамонныя скачкі; нават каткі, рыпаючы на хаду, цягнулі адно й адно:

— Адкупіўся, адкупіўся...

Уехаў у лес. У той самы лес, дзе злавілі. Сьпякота зьмянілася на прыемны халадок. Гэта асьвяжыла Пятруся, вярнула яму частку сьвядомасьці. Успомніў усё, што было. Зашчаміла сэрца сорамам, палкім, агнявым. У вачох паўсталі сьперш пагардлівы твар пана, потым ухмыляючыяся твары прыслужнікаў. Схавацца, схавацца ад самога сябе, стуліцца, увабраца ў нутро, каб ня быць, каб ня знаць анічога, каб не пякло, не балела ў сэрцы!..

Адкупіўся, адкупіўся...

І нашто ён зрабіў гэта!.. Лепш было-б прападаць... Сорам, сорам!

— Хіба вярнуцца?—раптам узварухнуўся, але зараз-жа з болем успомніў, што нічога ня выйдзе з гэтага, што ня вернеш ужо тае платы, якую заплаціў пану... Яшчэ больш зашчаміла нутро, быццам ірвалася на часткі.

— Але-ж затое дарма абышлося... І ў суд не падасьць, — памкнуўся заспакоіць сябе Пятрусь, але з гэтага нічога ня вышла. Прадставілася будучае жыцьцё—смутнае, гарапашнае, а ў вушох зноў зазьвінела:

— Адкупіўся, адкупіўся...

Усе будуць гаварыць яму гэта, усе будуць кпіць, зьдзеквацца. Усе, нават дзеці малыя...

Пачаў канчацца лес. Зарадзеў сасоньнік. Во ўжо і тое месца, дзе злавілі, білі, каталі... Хутка і двор, Жонка спаткае, спытаецца... дзеткі... Што адказаць? Адкупіўся?

Не, не паедзе ён у двор. Усё роўна ня будзе жыцьця... як ён зірне ў вочы сваім дзецям? Як яны паглядзяць на яго?.. Не!...

Спыніў кабылу, зьлез і доўга стаяў, абапёршыся на калёсы. Стаяў і думаў. Сонца плямамі вандравала па яго фігуры, часамі заблуджваючы на твар і накладаючы на яго празрыста-дрыготную пазалоту. Твар быў нярухомы, быццам адубеўшы; толькі зрэдку карожыўся, нібы ад моцнага болю.

Пятрусь стаяў і думаў. Стаяў аж да таго часу, пакуль здалёк не пачулася ляскатаньне калёс. Тады ўзварухнуўся, кінуўся ў бакі, асалапелы, спуджаны набліжэньнем людзей. Потым борзда, пасьпешна, хапаючыся стаў адвязваць ад кабылы лейцы...

Адвязаў і кінуўся ў лес. Быццам хто гнаўся за ім, насьцігаў. Дабег да тоўстае разложыстае хвоі, што стаяла, старая, вялізная, сярод стромкіх малодак і з старчаскай ветласьцю працягвала далёка ў бакі свае карузлыя, пакрыўленыя рукі. Па гэтых дзябёлых руках ляснога волата спрытна ўзабраўся Пятрусь. Зачапіў за высокі сук лейцы, завязаў пятлю на канцы і прасунуў у яе сваю кудлатую галаву.

Вочы заблішчэлі дзікім, шалёным бляскам, як зірнуў уніз з вышыні, а вусны скрывіла хваравітая ўсьмешка...

Ужо зусім блізка затарабанілі калёсы... Нехта наяжджаў... Пятрусь, як мага, адтаўхнуўся ад дрэва, кінуўся ўніз і павіс, дрыгаючы нагамі...

Пад'ехалі людзі, два мужчыны з Пятрусёвай вёскі. Абмінулі Пятрусёву кабылу і хацелі далей ехаць, але кабыла пайшла за імі ўсьлед. Тады яны прыстоілі і адзін саскочыў, каб прывязаць яе: пэўна, гаспадар за чым-небудзь у лес адышоўся, а яе на дарозе пакінуў. І толькі стаў ён глядзець па бакох, за што-б прывязаць яе, як убачыў Пятруся.

Кінуліся барджэй да яго, зьнялі з дрэва і паклалі на мох. Адзін нахіліўся, прыклаў к грудзям вуха...

— Усё...

— А яшчэ цёплы зусім,—прагукаў другі!

— З чаго-б гэта?..

— Хто-ж яго ведае... Ці мала што можа прытрапіцца ў нашым жыцьці!..

А Пятрусь ляжаў нярухома і глядзеў у блакітнае неба шырока расплюшчанымі, шклянымі вачмі! У гэтых вачох ня было ўжо ні радасьці, ні смутку—адна нямая, бяздонная пустата...

Пятрусь адкупіўся ад усяго...

---

# ЦІШКА БАБЫЛЬ

## I.

Гэта быў шавец. Самы звычайны. Жыў у невялічкай вёсцы Пракудзіне. Больш стар'ё правіў, а зрэдку і новыя боты майстраваў. Толькі рэдка гэткае сьвята яму выпадала, бо, праўду кажучы, у вёсцы, апрача Рамана Грышчанка, ня было дужа заможных.

Сядзіць Цішка ў маленькай—што гнязьдзечка—старэнькай хацінцы, дзяўбе сваім кляўцом, хістаецца над старадаўнай, папарэзанай, папраколанай, чорнай і бруднай скрыняй, закіданай усялякім начыньнем, і пяе. Не пяе, а так бубніць пад нос, цягне цянюткім, сіплым галаском. Нявыразьліва, аднатонна. Пяе і стукае кляўцом.

У Цішкі нічога ня было. Ён быў самы бедны ва ўсёй вёсцы, ды й блізка ва ўсёй акрузе. Нават сям'ёй і то быў пакрыўджаны. Баба памёрла гады цераз два пасьля вясельля, пакінуўшы малога хлопчыка. З ім і жыў цяпер Цішка. Ды й той больш па людзях цёрся, рэдка калі ў двары быў.

Бабыль. Так і звалі ўсе Цішку. Гэта было яго прозьвішчам.

Цішка быў ціхі, рахманы чалавек. Нікога не чапаў, нікога ня крыўдзіў. Ды яно хоць-бы й захацеў каго пакрыўдзіць, дык, пэўна, не здалеў-бы. Што ён мог зрабіць? Ці прыцісьнуць каго сваім багацьцем? Ці сілу сваю над кім папрабаваць? Бядота, слабейка—хоць-бы самому як абараніцца!

Але, праўду сказаць, і яго ніхто дужа ня важыўся крыўдзіць. Нават паважалі яго, як гэта ня дзіўна. Гэта-ж ужо ўсюды такі звычай, што над бабылём і насьмяюцца, і пакпяць з яго, а часам і штурнуць нават. А тут—не.

Любілі й над Цішкам пажартаваць мужчыны, сабраўшыся калі-небудзь увечары; асабліва, як пачынаў ён разважаць аб сваім жыцьці, аб надзеях сваіх, плянах і г. д., або як пачынаў выкладаць свае погляды на сельскую гаспадарку, якой яму блізка ніколі ня прыходзілася займацца і якую ён спадзяваўся калі-небудзь завесьці і на добры лад паставіць. Сьмяяліся муж-

чыны, у канцы і сам Цішка сьмяяўся. Але пагарды ня чувалася ў мужчынскім сьмеху.

І калі па Цішкаваму твару прабягаў цень сур'ёзнасьці, а вадзяніста-блакітныя вочы ў задуменьні ўпіраліся ў падлогу, сьмех сяброў адразу прымаў нейкі штучны, вымушаны характар і хутка зусім спыняўся.

Зірнуўшы ў твар Цішку, можна было адразу зразумець, што гэты чалавек, як той кажа, „сам сабе на ўме". Пад альнянымі вусікамі заўсёды бегала ўсьмешачка, якая быццам гаварыла ўсім, што Цішка нешта ведае. Толькі пакуль-што нікому гаварыць ня хоча. Калі-небудзь скажа—няхай толькі час прыдзе, а цяпер—ні... чакаць трэба.

А ці ведаў што Цішка Бабыль? Хто яго знае... Мусіць, што ведаў, бо надта спакойны быў. Такі спакойны, якім у яго становішчы мог быць толькі чалавек, каторы штось пэўнае ведае, на штось пэўна спадзяецца. Як ужо дрэнна часамі жылося яму, якога толькі гора ня прышлося яму паспытаць! Другі на яго месцы, дык-бы ў пятлю рад быў палезьці, а ён хоцьбы што. Сядзіць у сваёй—што рэшата—хацінцы ды ўхмыляецца, essential мармочучы сабе пад нос. Ляпае, калі ёсьць што ляпаць, а калі няма чаго, дык выцягне з скрыні, што пад лаўкай стаіць, кніжку, сядзіць ля вакна дый чытае. Пачытае, падумае, зноў пачытае, зноў падумае—і так аж да вечара. А ўвечары—к суседзям пагутарыць. І нават ня ўспомніць, што цэлы дзень у роце нічога ня было.

А пагутарыць Цішка ахвотнік быў. Ды й здатны быў гутарку весьці. Як зьбярэцца, бывала, дзе гурток мужчын, ды як трапіць у сярэдзіну к ім Цішка Бабыль, дык гэта ўжо вядома, што да поўначы прагукаюць. Чаго толькі не крануць яны ў сваёй гутарцы? І бога, і чорта, і вайну, і парадкі, і гаспадарку. Куды толькі не заблудзяць.

Цішка больш за ўсіх чаго ведаў. Нават у гаспадарцы. Здаецца, што ён можа знаць тут, калі, пэўна, ні разу ні за плуг, ні за касу, ні за вошта ня браўся. А як пачне гаварыць, дык выходзіць, што ён яшчэ больш, чымся хто другі, ведае. І калі араць трэба, і як зямлю ўгнаіць, і якія парашкі купляць можна—адным словам, чысьценька ўсё. Як стане, бывала, гаварыць пра гэта, дык аж вочы блішчаць. А мужчыны тады сьмяяцца пачынаюць. Неяк дзіўна і сьмешна Цішка зямлю кахае!

Цішку захапляла ўсё новае, незнаёмае, асабліва, калі было ахінута яно таёмнасьцю. Ён дужа любіў таёмнае. Але ў гэтым таёмным ён заўсёды мог адрозьніць значнае і патрэбнае ад драбязы і глупства. Калі трапляў у вёску які-небудзь невядомы бадзяка бяз роду і племені, якіх ці мала шлындае па

абшарах Беларусі, дык Цішка, як галодны на страву, накідаўся на яго. І з двух-трох слоў цяміў, якога гатунку чалавек перад ім, ці варта на яго ўвагу зьвяртаць, бліжэй знаёміцца з ім. І тады—або кідаў яго на абладу цікавых і неперабірлівых на навіны баб, або цэлымі гадзінамі сядзеў з ім, слухаючы простыя, несамавітыя апавяданьні.

З гэтых апавяданьняў ён ня столькі ўзнаваў, колькі дагадваўся аб тым, што нешта бурліць на сьвеце, нешта рыхтуецца. Ён ня знаў, што гэта, ня знаў, адкуль, але чуў, што гэта „нешта“ будзе на карысьць такім, як ён, бедакам, што яно мо' і яго замілаванае жаданьне зьдзейсьніць—злучыць яго з карміліцай—зямелькай. І ён верыў і чакаў.

## II.

Загрымелі грымоты рэволюцыі. Пакаціліся ва ўсе канцы Расіі. І яшчэ ня сьціхлі яны, як ударыў пярун кастрычніка. Запаліў усё старое, струхлелае, усё ахінуў чырвоным полымем. А ў гэтым полымі зарадзілася новае, маладое жыцьцё.

Магутны віхор даляцеў да самых глухіх куткоў, усюды здмуў парахню і пыл старога жыцьця, і з-пад гэтае парахні і пылу паказалася зялёная рунь.

Зачапіў віхор і стаячае паветра глухога Пракудзіна. Патхнула сьвежым, новым...

Спачатку мужыкі асалапелі. Ніяк не маглі зразумець надышоўшага... Ня тоўпілася неяк яно ў старых, адубелых галовах. Чулі, што нешта добрае, прыгожае прышло, але векавечнае гора навучыла іх быць асьцярожнымі, і яны цяпер баяліся чагось, ня верылі шчасьцю. Часамі, нават, думалі, што ўсё гэта „хітрыя штучкі“ нечыя, што не давядуць яны да дабра. Асабліва, як пачыналі шаптаць ім на вуха цёмныя сілы, палохаць, пагражаць ім, дык тады проста рукі павісалі...

А хацелася рабіць што-небудзь... Дужа хацелася. Нейкі сьверб чуваўся ў руках. Найшло такое паветра, што абурала чалавека, напаўняла жаданьнем працаваць, тварыць. Толькі—што рабіць? Кудыісьці?—Невядома.

Стварылася такое становішча, што трэба было толькі зьявіцца чалавеку, які-б узяўся весьці асалапелых сялян і якому-б яны трохі верылі—і сяляне пайшлі-б за ім куды-хоця... Пайшлі-б, бо ў той час, калі вакол мора бушуе, калі нясупынна грымяць грымоты, бліскаюць маланкі,—нельга стаяць на адным месцы, трэба куды ісьці.

І сяляне пайшлі. Іх павёў чалавек... І гэты чалавек быў Цішка Бабыль.

А з Цішкам быццам зрабілася нешта. Як толькі прышлі весткі, што „пачалося“ ўжо, ён кінуў сваю кануру, плюнуў на работу і пайшоў блэндаць па вёсцы. Дзе толькі яго ня было... І ўсё гаварыў, угаварваў, клікаў, тлумачыў тое, што дзеецца на сьвеце. Нейкія словы новыя пусьціў: рэволюцыя, соцыялізм, комунізм...

III.

Адкуль толькі бралася столькі жыцьця, столькі моцы духоўнай у гэтага маленькага чалавечка! Самаго яго проста не пазнаць было: зусім зьмяніўся... Вочы блішчаць, галава ўгару ўзьнята, на твары гэткае шчасьце, здаволеньне... Зірнуць на яго, дык можна падумаць, што гэтаму чалавеку дужа пашанцавала ў жыцьці.

Ды яно блізка так і было, бо, прынамсі, сам Цішка лічыў, што тыя падзеі, якія адбываюцца ў Расіі, зьвязаны з ім. Ён ня меў аб іх дакладных вестак, бо ў Пракудзіна дахадзілі толькі няпэўныя чуткі, але чамусьці цьвёрда прakананы быў, што гэтыя падзеі адбываюцца на шчасьце такіх, як ён.

Мужыкі слухалі, слухалі, ды й паверылі Цішку Бабылю... А як паверылі, дык ужо й пайшлі туды, куды клікаў ён іх.

І пачалі будаваць сваё жыцьцё...

Нязручнай была ім адразу гэтая новая работа. Як радзіліся яны, дык увесь свой век і пражылі не разважаючы, так, як было спакон веку заведзена. Ім і ў думкі ніколі ня прыходзіла, каб самым па сваёй волі зьмяняць сваё жыцьцё, будаваць яго сваімі чорнымі, карузлымі мужыцкімі рукамі...

І нязграбна ў іх выходзіла сьперш гэтая работа, а часамі й сьмешна нават... Ведама—першы раз у жыцьці ўзяліся. Але як-бы там ні было, а патроху свайго дабіваліся.

Рамана багацея заарыштавалі... А ўсё Цішка...

— Братцы!—кажа:—дакуль будзем цярпець? Гэта-ж злодзей, кравапіўца! Ён-жа абакраў нас! Яго багацьце—гэта-ж пот наш, кроў наша! Даволі!.. Даволі ўжо яму мучыць нас! Час прышоў!..

Абурыліся сяляне... Плоймай пайшлі... Раман, як убачыў, зьбялеў, спалохаўся. На Цішку пазірае скоса... А той не зважае: чыкрыжыць ды й годзе...

— Кравапіўца! Эксплёататар! Годзе кроў нашу піць! Мінулася тваё панства!

Ды й ці мала там што. Мужыкі падтрымалі. Вядома, накіпела на сэрцы. Кожны адчуваў на сабе цяжар яго лапы. Гэта-ж трэба сказаць—усю вёску ў кулаку трымаў!..

Але Раман хоць і спалохаўся, а не здаваўся адразу. Пачаў лаяцца, пагражаць, мандата вымагаць... Вось яму тады і паказалі мандат: скруцілі ды пасадзілі ў халодную хату.

Заарыштавалі багацея, а што з ім рабіць—і самі ня ведалі. Стаялі сярод вуліцы ды радзіліся, а той аж захадзіўся ад злосьці ў халодніцы...

Урэшце Цішка надумаўся. Запрог каня і паехаў, а к вечару прывёз з мястэчка нейкага чарнявага. Хто ён такі быў—ніхто ня знаў, апрача Цішкі... Ды й той, пэўна, сам добра ня ведаў. Але адразу нешта прыхінула да яго сялян і яны ўважна слухалі яго, хапалі наляту кожнае слова... І верылі яму.

Чарнявы навучыў сялян, як і што рабіць. Абабралі комітэт: Цішку і яшчэ двух. Гэты комітэт і ўзяў на сябе ўсю ўладу на вёсцы, пачаў свае мужыцкія парадкі навадзіць...

Рамана выпусьцілі: на ліха яго трымаць! Толькі не палягчэла яму ад гэтага. Седзячы, ня бачыў-бы, прынамсі, як маетнасьць ягоную парадкуюць. Ня лопаўся-б ад злосьці.

А шчупалі добра: зналі, што сваё, мужыцкае дабро бяруць. Там якая бабылка з голаду паміраць нарыхтуецца—Раманавыя засекі ратуюць. Там вайсковыя прыедуць,—таварышы, дайце хлеба!—зноў Раманавыя засекі трашчаць. А там яшчэ што-якое. За ўсё Раман адказвае. А схаваць або зьвесьці куды—ні. Сочаць. Заб‘ём, казалі, калі толькі памкнешся хаваць.

Затое-ж бядота ўся аж уваскросла. І не чакала яна ніколі гэткага палягчэньня. Іншыя дык самі сабе ня верылі. Ды куды-ж там: усё ўверх нагамі перакулілася. Раней—людзьмі нават ня лічыліся, а цяпер—глядзі-тку, што дзеецца.

## IV.

Вясной зямлю дзялілі... Адабралі ў Рамана вялікшую частку, сумежнае панскае трохі дасталі—якраз і хапіла ўсім... Нават Цішка Бабыль і той узяў сабе кавалак. Ён, праўда, іначай хацеў зрабіць, інакшая думка сядзела ў яго галаве, інакшыя вобразы малявала яго выабражэньне. Надта ўпадабалася яму думка аб комуне. Сьмелая думка! Але і ён сьмелы: не спалохаўся яе, як іншыя. А зразумеў ён яе проста, памужыцку.

Зямля ўсіхная—усё роўна ня прысвоіш яе назаўсёды. А худобы гаспадарскае мала: у таго конь ёсьць, дык плуга няма, у другога плуг ёсьць—каня няма. Як ні круці, а ўсё прыдзецца бегаць ды пазычаць, ды чакаць, пакуль гаспадар сам управіцца—час дарагі губіць. А там—шнуркі гэтыя, межы, няроў-

насьць: аднаму лепшы выпадзе, другому горшы—гэта-ж незраўнуеш. А куды лепей-бы—супольным ладам. Адзін арэ, другі скародзіць, трэці сее, чацьверты яшчэ што робіць. Менш жывёлы, начыньня трэба, а посьпех яшчэ вялікшы. Ніякіх табе шнуркоў, меж—гані праз усё, ды й годзе. А там—ці машыну купіць, ці пабудаваць што-якое, мірам—дык гэта ўраз, ня то, што па аднаму.

Толькі маўчаў пакуль-што Цішка. Нікому з сялян не выкладаў сваіх думак, бо добра ведаў, што не зразумеюць пакуль-што сяляне, не згадзяцца на гэта. Дужа хочацца кожнаму з іх мецъ „свой" асобны кавалачак. Вякамі ўзгадавалася ў іх гэтае жаданьне... Пасьля ўсё можна будзе, а цяпер—не...

Так і падзялілі зямлю. На які час—яшчэ й самі ня ведалі. Чакалі, які загад ад ураду выйдзе.

Цішка тож узьбіўся трохі на гаспадарку. Працаваў—як толькі мог. Працаваў з жарам, з запалам. Толькі ня ладзілася ў яго гаспадарчая справа. Ня прыходзілася яму ніколі на зямлі працаваць, бо яшчэ, мусіць, дзяды яго адбіліся ад зямлі, за рамяство ўзяліся. А ня прывыкшы змалку працаваць, ужо пад старасьць трудна прывыкаць...

І Цішка біўся, як рыба аб лёд, клаў усе свае сілы, а ўсё ня было ладу. Глядзіць ён на другіх мужчын і сам аж зайздросьціць: гэтак спрытна і лёгка ў іх выходзіць! Цэлы дзень працуюць і хоць-бы што, а ён за гадзіну замучыцца так, што ледзь дыхае.

І злосьць бярэ яго і дасада... Часамі ледзь не заплача... Гэтак хочацца яму над зямелькай папрацаваць... Колькі чакаў ён гэтага шчасьлівага часу!.. Усё-б аддаў, здаецца, каб толькі так, як іншыя, папрацаваць у ахвоту!..

Ня можна...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Лета біўся Цішка Бабыль, а з восені зноў засеў у сваю хацёнку, зноў заляпаў кляўцом...

Сядзіць, арудуе сваім начыньнем і пяе ценкім сіплым галаском, мармоча сабе пад нос. Не зразумець, што пяе ён, якую песьню аднатонную цягне... Толькі, калі добра прыслухацца, можна часамі злавіць у яго пяяньні знаёмыя словы вядомых рэволюцыйных сьпеваў.

Як і раней, любіць Цішка кніжку або газэтку пачытаць, любіць з сялянамі пагутарыць, разважыць іхныя жыцьцёвыя замінаньні. У Пракудзіне ўжо ў звычай увайшло: калі ў каго непаразуменьне якое, патрэба—зараз да Цішкі Бабыля. І ён усё растлумачыць, раду добрую дасьць.

Ды ня толькі словамі, а й дзелам Цішка заўсёды гатоў дапамагчы сваім братом-сялянам. Колькі часу ўжо прайшло ад рэволюцыі, а ён і цяпер яшчэ стаіць на чале вясковае ўлады. Не шкадуе ён ні працы ні часу—сумленна спаўняе свае абавязкі, цьвёрда стаіць на варце сялянскіх інтарэсаў.

У сваім прыватным жыцьці Цішка астаўся такім, як і быў. Ні аб чым ня дбае... Хатка яго яшчэ больш пахінулася на бок, яшчэ больш засьвяціла дзіркамі. Есьці, як і раней, не ўсягды бывае што... Але Цішка не зважае на гэта...

Часамі запытае яго хто-небудзь:

— Што гэта ты? Усе будуюцца, жыцьцё сваё паляпшаюць, а ты як жыў, так і жывеш у сваёй канурцы! Гэта-ж не даўнейшае...

— Эт,—адкажа ён,—нашто мне? Многа мне трэба аднаму? Пакуль рукі ёсьць, буду працаваць і за працу сваю хлеб есьці, а там... найду месца... Сын, дык той таксама хутка сабе хлеб знойдзе. На гаспадарку разжывацца—стар ужо я, не па маіх сілах... А так?.. Пражыву...

Але задумаецца пасьля гэтых слоў Цішка... Мусіць, успомніць сваю замілаваную думку—земляробам стаць... І пасмутнее... Толькі не надоўга...

Траханець галавою Бабыль, усьміхнецца вясёла і дадасьць:

— У пролетара няма бацькаўшчыны...

# БЕЛЬ

## I.

Ціха, лагодна патрусілася з неба. Потым завіхрылася маладым, жвавым карагодам. У дзівосных, адчайных скоках замітусілася, быццам хацела падражніцца, пашкуматаць трохі счарнеўшую старую зямлю.

І ўрэшце ўзьляглася—цяжка, пухка, пластом ваты; захінула, сьціснула ў мякка-ўпартых абнімках.

Бель... Першая бель—прывітаньне доўгачаканай гасьцюхі-зімы...

Весела, радасна спатыкаць першы сьнег!

Чаму?

Можа таму, што сьмерць прыроды ярка адзначае, быццам падкрэсьлівае жыцьцё чалавека? Мо' затым і настрой тады ахапляе чалавека такі, што—жыць, разгарнуцца, упіцца жыцьцём хочацца? Мо' затым гэта сьмяротнае адзеньне, гэты саван прыроды—бель абурае душу чалавека, цягне яго некуды ў зачараваны прасьцяг, туды, далёка па гэтым бяскрайным белым дыване, на спатканьне чамусь невядомаму, сьветламу?

Можа і затым? Але ладна...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта пачалося яшчэ ўлетку, калі горад купаўся ў едкім пылу. Тады былі сонечна-сьветлыя, палкія дні, якія падскварвалі, як на патэльні, праціналі душнаю млявасьцю, і вечары халаднаватыя, ціхія.

Данілу Чаборскаму дні былі—жорсткая праца ў заводзе, а вечары—або сходкі якія, або нудная сумятня, дробныя жыцьцёвыя клапоты.

Ён любіў, калі сходкі. Зьбярэцца чалавек паўсотні комуністых, а часам завод увесь. Прамовы, спрэчкі...

І адчуваеш сябе тады часткай чагось вялікага, значнага. Расьцеш неяк, уздымаешся, адчуваеш сябе ня проста работнікам, а нечым вялікшым і патрэбным. Мо' тым пасам, што спавівае рухавыя колы ў заводзе?

А ў двары інакш. Там жонка, дзеці, там розная драбяза жыцьцёвая. Абцугі. Сьціскаюць яны, і робішся маленькім, нячзначным. Стуляешся ў будзённую шалупу.

А дзе чалавек: там ці тут?

Даніла аб гэтым ня думаў. Нашто? Ня ўсё роўна, ці гэтак ці так... Жывеш—і добра.

Але вось што прытрапілася...

На завод паступіла дзяўчына. Даніла даўно не глядзеў на кабет—ня цікавілі. А на гэту зірнуў. І штодня ўзіраўся—перш здалёк, потым бліжэй.

Ёй было гадоў дванцаць. Ганнай звалі. Прозьвішча—Матузова. Пекнатой—так сабе, але вочы—шэрыя, буйныя вочы... Яны хапалі за сэрца. Былі гэткія глыбокія, прамяністыя.

Даніла і ня ўгледзеў, як сышоўся з гэтай дзяўчынай. Першы раз загаварылі нешта ўвечары, ідучы ў двор.

Ён ішоў ззаду вясёлай гурмы дзяўчат-работніц. Дзяўчаты, ідучы, стракаталі, штурхаліся, гарэзвалі. І яна была сярод іх. А потым зьвярнула ў тую вулку, куды і яму трэба было ісьці.

Ён дагнаў яе.

— Вы куды ідзіцё?

— Дахаты.

— А дзе ваша хата?

— На Ленінскай.

— Во як? Значыцца—суседзі... Вы ў каго?

— А хто яго ведае! На рагу жоўценькі домік, там я каморку займаю.

— Вы адна жывіцё?

— Адна,—адказала, нібы зьдзівіўшыся гэткаму пытаньню. Ускінула на Данілу дапытлівы погляд шэрых вачэй.

— Далёка да заводу,—буркнуў ён.

— Во гэта горш за ўсё. Я дык ніколі не хаджу на полудзень, ня справішся. Вось і цяпер... Трэба насьпех перакусіць і зноў бегчы за блізкі сьвет: сходка-ж сёньня партыйная.

— Вы комуністка?—зьдзівіўся ён.

— Ага. А хіба баба комуністкай ня можа быць?

Яна ўсьміхнулася. Вясёлая ў яе ўсьмешка!.

— Мала,—адказаў Даніла.—У нас ёсьць дзьве, але і то з служачых.

— Гэта і дрэнна. Дурныя яшчэ бабы. Затым і зьдзекуецца ваш брат над імі. Верна?

Яна гучна зарагатала. Брызганула вясёлымі іскрачкамі з шэрых глыбокіх вачэй.

Даніла таксама ўсьміхнуўся.

— Можа й так... Але варта вашаму брату: неспакойны народ. Ведама—бабы...

— Ну, кажыце вы...

Пакуль дайшлі да двара, усё гаварылі.

А праз гадзіну Даніла сядзеў у работніцкім клюбе і нецярпліва чакаў, ці скора прыдзе Ганна.

Работнікі сядзелі гурткамі, упаўголаса гутарылі адзін з адным. За сталом „верхаводы“ сядзелі. Разьбіралі паперы, аб нечым паціху спрачаліся.

Даніла ўсё азіраўся. Ляпнуць дзьверы—ён і зірк: ці не яна? Пакой напаўняўся новымі людзьмі, а Данілу здавалася, што ён пусьцее.

Пачалася сходка. Даніла ня слухаў, аб чым гаварылі. Думкі лёталі ва ўсе бакі, што косы прожэктару. Неяк ураз спыняліся ў абшары і траціліся. Быў непарадак у галаве і ніяк не ўдавалася сабраць думкі да ладу.

Хацелася ўсё назад азірнуцца, ды стрымліваўся, быццам сароміўся сам сябе Але ўрэшце ня вытрымаў—і ўбачыў яе на краю лаўкі.

Шэрая сукенка, шэрыя вочы...

Адразу настрой зьмяніўся. Весела стала. І сталі зразумелымі словы прамоўцы.

А як кончылася сходка, як запелі „Інтэрнацыянал“, —усё азіраўся Даніла, баяўся, каб не пайшла без яго.

Пайшлі разам. Ганна сьпяшалася.

— Заўтра ўставаць раненька-раненька, а сёньня яшчэ многа зрабіць чаго трэба... Нават і пачытаць некалі. Кніжку цікавую ў бібліотэцы дастала—проста не адарвацца... А вы ці чытаеце што?

— Некалі...

— Ну, што там некалі... Столькі сама часу, колькі і ў мяне, калі ня больш.

— У мяне сям‘я...

— А!.. Ну, гэта іншая рэч.

Яна ўсё турбавалася, каб хутчэй дабрацца дадому. А яму хацелася памарудзіць. Ён любіў увечары прайсьціся па гораду, падзівавацца на яго кіпучае, бурлівае жыцьцё. Зірнеш усьцяжна вуліцу—агні, сьвет, людзі, людзі бясконца... Увушшу зьліваецца ў дзіўную гутарку-песьню: грукат калёс, гвалты хлапцоў, гоман усяго гэтага людзкога натоўпу...

Як праходзілі міма рэсторану, абодва міжвольна зірнулі ў шырокія вокны, поўныя яркага сьвету.

— Вунь яны... П‘юць, ядуць... Ліха ім!.. Во, каму жывецца!

— Гнільлё,—азвалася Ганна.—Мне брыдка глядзець на іх... І ні крушыначкі я ім не зайздрую.

— А ведаеце што, Гануля, мне часамі дужа сьмешна бывае. Я люблю глядзець на спэкулянтаў, сачыць за імі, як яны ходзяць, як гамоняць, які часамі важны-важны від робяць, быццам яны не абы-што... І вось часамі яны выдаюць мне нейкай жывёлай, непадобнай да ўсіх людзей. Мне пачынае здавацца, што іх наўмысьля разводзяць, як, напрыклад, малпаў якіх або сьвіней... на паказ... для заводу... І ўзапраўды, яны дужа на сьвіней на завадзкіх падобны...

Гануля сьмяялася...

## II.

Прышоўшы ў двор, Даніла доўга думаў пра Ганну. Прыемна было думаць. Як лёг у ложак, выпрастаў змораныя ногі і акунуўся ў салодкую нярухомасьць,—шэрыя вочкі зазірнулі аднекуль і пацялі нутро ціхаю ласкай.

— Добрая дзяўчына. А разумная якая, відаць...

Сьнілася нешта. Ня помніў што, як праснуўся. Толькі на душы засталося ціхае, ружовае абурэньне.

На заводзе ўсё прыглядаўся, шукаў шэрую сукенку. І не пазнаў, як праходзіла воддаль. Не заўважыў...

Яна азвалася:

— Дзень добры! Як маецеся?

— А, я й не пазнаў вас... Дзякую. Як вы?

— У, я заўсёды добра. Мяне ніякае ліха не бярэць!..

Засьмяялася і пайшла. А Даніла з асаблівай шчырасьцю завінуўся каля свайго станка. Па вуснах блукала нейкая ўсьмешка. Яго сусед па рабоце ня ўтрымаўся:

— Што гэта, дзядзька Даніла, на дзяўчат заглядацца пачаў? Ой, скажу жонцы, дадушы скажу...

— Ды не. Гэта—суседка.

— Суседка, суседка... Знаем мы вас!

Хітра падміргнуў.

Данілу трохі сорамна стала.

— Ат... выдумаў...

Гудок у гэты дзень быў дужа позна для Данілы. Прачакаўся, небарака. А як загудзеў—зычна, прарэзьліва—у Данілы сэрца забілася мацней.

Ніколі ня выходзіў ён так раптоўна з заводу. Бывала—пакурыць, пагутарыць... А то—ураз.

Вышаў на вуліцу, спыніўся каля купы работнікаў, якія аб нечым гутарылі. А сам усё пазіраў на вароты—ці скора работніцы выйдуць. Няўважна слухаў, аб чым сябрукі гаманілі.

Вось і высыпалі пярэстай, сумятлівай гурмай. Вунь і яна. Расчырванелася ад жару, шчочкі ірдзяцца, як мак. Уся пыхае сілай, здароўем.

Даніла пайшоў усьлед. На звароце зноў дагнаў, пайшоў разам. Любаваўся на яе. Асьвятлёная ружовым водблескам заходзячага сонца, яна здавалася прыгожай, дужа прыгожай. Быццам уся складалася з маладосьці, сілы, здароўя; быццам была жывая вясна. Зграбная, крамяная...

Яна заўважыла яго погляд. Усьміхнулася гарэзьліва, узьняла на яго іскрыстыя, шэрыя вочы.

— Чаго глядзіцё так?

Ён хацеў адказаць, але яна далей загаварыла:

— Горача дужа... Там, у заводзе. Ух... Проста, як у пекле.

— Нічога. Вам, маладым, гэта ня шкодзіць.

— У, стары які!.. Падумаеш!..

— Вядома, стары. Я ўжо аджыў сваё. Цяпер толькі так, працяг нейкі...

— Ну, кіньце вы!

— Што кідаць? Вас, маладых, тое цікавіць, другое... А мне што? У мяне ўжо адны клопаты, адны турботы... Гняздо цэлае. Ды ўсё есьці просяць. А накарміць ня дужа лёгка. Вы-ж ведаеце, колькі нам плоцяць.

— Ну, паехала! Нялюба слухаць. Калі сям'я ёсьць, значыцца—усё... лажыся ды памірай... Глупства. Адно другому не замінае.

— А што-ж рабіць?

— Што-хоця. Чытаць, вучыцца. Я, дык дужа чытаць люблю.

— А часу дзе ўзяць, а?

— Знойдзецца.

Даніла задумаўся. Раней ён ніколі ня думаў аб жыцьці. Ня думаў, бо пагадзіўся з ім—нічога не парадзіш. Ён і цяпер загаварыў проста так, каб пагутарыць. Але неўзаметку захапіўся ўсур'ёз гэтай думкай.

Ліха ведае... І праўда—дрэнь жыцьцё. Узваліў сабе ношку на плечы, цягнеш... І нямаведама, калі дацягнеш яе, калі адпачнеш. Ды й напэўна—ніколі. Хіба, як здохнеш...

Калі ўжо падходзілі к двару, Данілу дужа захацелася спытацца ў яе, але сорамна неяк было—ні з таго, ні з сяго... Урэшце-ткі адважыўся.

— Вы, Ганна, замужам былі калі?

— Я? А што, гэта вам цікава?

— Ні то што... Калі ня хочаце, не кажыце...

— Была.

— А цяпер?

— Цяпер не...
— А дзе ён?
— Хто, мужык? А хто яго ведае...
— Як гэта?
— Ды проста так...
— Вы што... разьвяліся?
— Як вам сказаць... Мы й не жаніліся так, як гэта зазвычай разумеюць. От, проста жылі, ды й годзе...
— Ну?..
— Што-ж тут такога? Жылі, пакуль не надакучыла, а потым разышліся. Ён можа-б і жыў яшчэ са мной, але мне абрыдла...
— Пачакайце... Але-ж чалавек прывыкае да чалавека, зжываецца. Пэўна, ня лёгка й разлучыцца...
— Глупства! Прывыкнуць і адвыкнуць дваццаць разоў можна. А калі й пасумуеш часам... Яно, праўда, як разлучышся, дык і мілей чалавек робіцца і нібы зноў любіць яго пачынаеш. Але гэта самападман. Разьлюбіў, значыцца—кончана.
— Мм... Гэта, памойму, таксама не рахуба... Сёньня адзін, заўтра другі...
— Ха-ха-ха!.. Што так? Гэта, як трапіцца. А можа спаткаеш такога, з якім век пражывеш і не надакучыць. Хто яго ведае? Гэта загадзя не згадаеш... Паспытаць трэба, ха-ха-ха!..
— Бывайце!..
Яна пабегла ў сваю кватэру.
— Маладосьць!—крыкнуў усьлед Даніла.

III.

Праз тыдзень Даніла быў разам з Ганнай у клюбе. Адчыніўся марксыцкі гурток. Было першае пасяджэньне.

Не пайшоў-бы, напэўна, Даніла, бо зазвычай хадзіў толькі туды, куды абавязкова было хадзіць. Але знаў, што Ганна там будзе, затым і прышоў.

Цікава было. Даніла наогул не пакаяўся, што пайшоў.

Лектар—з чужых, малады хлопец—прыгожа, складна апавядаў пра тое, як жылі калісь людзі. Тады, як ня было яшчэ ні паноў, ні мужыкоў, як былі ўсе роўныя. Даніла міжвольна пералятаў сваім уяўленьнем у тую пару, калі вандравалі яны—дзікія, безабаронныя—гурмамі па непраходных, старадаўных лясох, поўных нявідных ворагаў. Людзі—прабацькі сучаснага чалавека, гаспадара сьвету. Людзі—жывёлы...

І дзіўна рабілася. Не хацелася верыць...

А пасьля лекцыі спрэчкі пайшлі. Гарачыя, заўзятыя. Няпрыметна і тэму пакінулі, перайшлі на сучаснасьць.

